# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 19 (793) ГОД XVI БЕЛАСТОК 9 МАЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.




*У галоўнай чытальні філіялу Варшаўскага ўніверсітэта ў Беластоку на вуліцы Міцкевіча 1.* *Фота — Цаф П. Савіцкі*




## ДНІ АСВЕТЫ, КНІЖКІ І ПРЭСЫ

Горад Беласток — сталіца ваяводства мае цяпер 3 вышэйшыя ўстановы: Медыцынскую акадэмію, Вышэйшую інжынерскую школу і наймалодшую — Вышэйшую настаўніцкую школу. Гэта адно з вялікіх адрозненняў нашага цяперашняга Беластока ад колішняга, які не меў увогуле вышэйшых школ і быў толькі правінцыяльным горадам.

Беласток — цяпер гэта ўжо значны навуковы і студэнцкі цэнтр. А як будзе далей? Такое пытанне чуем часта. Людзі, пражываючыя ў ваяводстве і ў самім горадзе, хочуць бачыць Беласток у перспектыве як вялікі культурны і навуковы цэнтр.

Для развіцця Беластока як культурнага і навуковага цэнтра (я не пішу пра прамысловы і іншыя цэнтры) рабілі і робяць вельмі многа нашы ваяводскія ўлады: Ваяводскі камітэт Польскай аб'яднанай рабочай партыі і Прэзідыум ваяводскай рады нарадовай.

Спецыяльная камісія, створаная Прэзідыумам ВРН, апрацавала ўступны праект плана развіцця Вышэйшай інжынерскай школы і Вышэйшай настаўніцкай школы ў Беластоку.

ВЫШЭЙШАЯ НАСТАЎНІЦКАЯ ШКОЛА — ФІЛІЯЛ ВАРШАЎСКАГА УНІВЕРСІТЭТА Ў БЕЛАСТОКУ.

ПЕРШЫ ЭТАП РАЗВІЦЦЯ — ДА 1975 ГОДА.

Набор студэнтаў у навучальным годзе 1971/72 на стацыянарнае аддзяленне на наступныя напрамкі:

- матэматыка з фізікай;
- фізіка з хіміяй;
- польская філалогія;
- руская філалогія;
- гісторыя з абаронным прыспасабленнем;
- практычна-тэхнічныя заняткі;
- пачатковае навучанне з музычным выхаваннем.

Існуе прапанова (з ёю ўлады нашы выступілі да міністра асветы і вышэйшага школьніцтва) адкрыцця завочнага аддзялення ў ВСН у 1971/72. Неабходна даць працуючым настаўнікам магчымасць атрымаць вышэйшую адукацыю.

На завочным аддзяленні плануюцца наступныя напрамкі:

- пачатковае навучанне;
- матэматыка;
- фізіка;
- польская філалогія;
- руская філалогія;
- гісторыя;
- беларуская філалогія;

Для настаўнікаў, працуючых у Беластоку і бліжэйшых паветах, прапануецца стварыць вячэрняе аддзяленне. Існуе апрацаваны план 10-гадовага (завочнага і вячэрняга) давучання працуючых настаўнікаў. Наборы аблічаны так, каб да 1981 года ўсе настаўнікі Беласточчыны маглі закончыць Вышэйшую настаўніцкую школу.

ДРУГІ ЭТАП РАЗВІЦЦЯ ВСН — ПЕРСПЕКТЫВА.

Гэта канцэпцыя будучага гуманістычнага цэнтра ў Беластоку (Akademicki Ośrodek Humanistyczny).

(Працяг на стар. 4)




■ 20-га красавіка адбылося пасяджэнне камісіі асветы Галоўнага праўлення. Першым пунктам парадку дня была справаздача старшыні камісіі Міколы Гайдука аб дзейнасці камісіі асветы ў 1970 годзе. Трэба адзначыць, што з пяці камісій ГП камісія асветы працавала найлепш і ўзнімала вельмі істотныя справы беларускага школьніцтва. І на гэтым, апошнім пасяджэнні справам навучання беларускай мовы было прысвечана многа часу. Бажна тое, каб колькасць дзяцей, якія навучаюцца роднай мове, не памяншалася. Зараз у 163 школах Беласточчыны вывучае родную мову больш 10 тысяч школьнікаў. Пасля дыскусіі над працай камісіі сакратар ГП Янка Зенюк у сваім выступленні звярнуў увагу на некаторыя актуальныя справы стану беларускага школьніцтва ў бягучым годзе. Затым Мікалай Гайдук запрапанаваў план працы камісіі да канца бягучага 1971 года.

■ 23-га красавіка камісія культуры ГП выслухала калектыўную інфармацыю, якую падрыхтавалі Сяргей Лукашук, Зося Стаськевіч і Тэкля Вашчук, аб правядзенні ўсіх конкурсаў, звязаных з 15-ай гадавінай БГКТ. У інфармацыі сцвярджалася, што конкурс на беларускую песню яшчэ мала прапагандуецца ў паасобных аддзелах і таму ў конурсе прыняло ўдзел толькі 70 чалавек, у асноўным з Беластоцкага, Бельскага і Сямяціцкага паветаў, а таксама з горада Беластока. У конкурсе на беларускую песню сярод школьнікаў прыняло ўдзел малавата дзяцей, бо толькі 73 асобы. У Сакольскім і Беластоцкім паветах аддзелы асветы зусім занядбалі гэтае карыснае мерапрыемства. У справе конкурсу самадзейных тэатральных калектываў з беларускім рэпертуарам удзельнікі гэтага пасяджэння запрапанавалі прэзідыуму ГП, каб да ацэнкі мастацкага ўзроўню тэатральных калектываў была створана адна камісія, якая не звяртала б увагі на прадстаўніцтва аддзелаў, а толькі на мастацкі ўзровень. (Калі высокі ўзровень, могуць быць на аглядзе ў ГП усе 5 калектываў з аднаго аддзела). Найслабей прайшоў літаратурны конкурс. У конкурсе прынялі ўдзел толькі два літаратары. Відавочна, і тэма конкурсу была неадпаведная. (мх)




Орля ў Бельскім павеце, нядзеля, 2 красавіка 1971 года. Дзень хмурнаваты, праз імглісташэрыя воблакі ледзь-ледзь прасвечваецца слабенькае вясенняе сонца.

Разглядаюся па вуліцах пасёлка. Звычайна яны ціхія, спакойныя, як жыццё іх жыхароў. Гэтага дня аднак дзеецца тут штосьці нештодзённае. На заўсёды спакойных вуліцах штораз сустракаю ўзброеныя патрулі, вартавыя стаяць ля сядзібы ГРН, пошты, міліцыйнай камендатуры і пры іншых «стратэгічных» пунктах пасёлка.

Аказваецца, што гэтага дня разыгрываецца ў Орлі «вайна». На шчасце, гэта не вайна, гэта толькі гульня ў вайну. Проста мясцовы атрад самаабароны праводзіць заняткі практычнага дзеяння ва ўмовах варожага нападу.

Што ж зрабіць? Гэта неабходнае ў нашым неспакойным свеце. Ужо ж старажытныя мудрацы вучылі:

*Хочаш жыць мірна — рыхтуйся да вайны.*

Рыхтуйся, каб быць моцным, спраўным, рашучым, каб у кожную хвіліну і на кожным месцы адкруціць галаву любому ворагу, якому захацелася б прапхнуць нос на нашу тэрыторыю. І хай кожны ведае, што мы поўнасцю гатовы да рашучага адпору, што не толькі салдаты і афіцэры Людовага Войска Польскага будуць да апошняй кроплі крыві стаяць за сваю Радзіму, але салдатам, калі спатрэбіцца, будзе кожны грамадзянін. Хай ведаюць гэта, каму ведаць трэба. Асабліва цяпер — напярэдадні 26-ай гадавіны заканчэння лютай вайны.

З вопыту дзеянняў на індакітайскіх і блізкаўсходніх франтах ведаем, што агрэсар прымяняе самыя жудасныя, зверскія віды масавага забойства: газ і напалм. І да гэтага трэба рыхтавацца. І не толькі да гэтага, а нават да найгоршага, што можна было б сабе прыдумаць, што дагэтуль перацярпелі толькі два японскія гарады: Хірасіма і Нагасакі — да атамнага ядзернага нападзення.

У Орлю з'ехаліся ўсе старшыні прэзідыумаў грамадскіх рад, каб паглядзець і павучыцца. Разам з імі былі: намеснік старшыні прэзідыума ПРН у Бельску тав. Уладзіслаў Гадончук і шэф павятовага вайсковага штаба падпалкоўнік Уладзімір Сускі. Абодва яны ўжо прайшлі праз выпрабаванні сапраўднай вайны, абодва ў акопах змагаліся за наша мірнае жыццё.

Мэтай заняткаў арлянскага атрада самаабароны было ўдасканальванне яго дзейнасці ў час баявой трывогі і варожай бамбардзіроўкі, удасканальванне судзеяння паасобных звенняў атрада ў вядзенні разведкі за варожымі сіламі, у ратаванні дзяржаўнай і прыватнай маёмасці, у захаванні парадку і дысцыпліны.

Гадзіна 10.00. На камандным пункце збіраюцца камандзіры паасобных служ-

(Працяг на стар. 3)




*У выніку бамбардзіроўкі ўспыхнуў пажар. Дык арлянскія пажарнікі ўступаюць у акцыю.*

 

Пачатак на стар. 1

# „ВАЙНА” у Орлі

баў атрада самаабароны і яго кіраўніцтва. Старшыня прэзідыума ГРН у Орлі тав. Мікалай Лемеш, які адначасова з'яўляецца старшынёю грамадскага камітэта самаабароны, знаёміць прысутных са становішчам у краіне, якое вынікае са стратэгічных прадпасылак: варожыя сілы ўварваліся ў краіну, Рада Дзяржавы аб'явіла ваеннае становішча для ўсёй краіны, спадзяемся паветранага нападу, можна лічыцца з дзейнасцю дыверсантаў. У сувязі з гэтым ён загадвае: давесці паасобныя службы атрада да поўнай баявой гатоўнасці.

Раззваніліся тэлефоны. Ніна Петручук і Антаніна Рагоза, якія на штодзень працуюць на арлянскай пошце, цяпер ледзь паспяваюць прымаць і перараказваць загады і паведамленні. Звоняць з вартаўнічых пунктаў, якія размешчаны ў Орлі і з вёсак: Спічкі, Крывая, Рэдуты, Крываціцы, Міклашы, Шчыты. Дакладваюць аб сваёй гатоўнасці да абароны роднага краю, аб становішчы на месцы іх размеркавання.



*Яшчэ толькі ачысціць вуліцу, панадворкі і будынкі ад астаткаў газу або ядзернага пылу, і зноў можна распачынаць нармальнае жыццё*

Гадзіна 10.30. Трывожна выюць сірэны. А праз момант паветра адгукаецца выбухам, і зараз жа над пасёлкам снуецца дым і агонь. Дакладваюць, што гарыць гэсаўскі таварны склад. Разведка хутка ўстанаўлівае, ці выпадкова няма газаў або ядзернага праменявання. І тады ў акцыю ўключаецца супрацьпажарная каманда, а ўслед за ёю санітарная служба. Агонь хутка гасяць, а медсёстры, спраўна перавязаўшы параненых, адразу ж дастаўляюць іх на медыцынскі пункт.

І тут жа паведамляюць на камандны пункт, што ў лясочку над рэчкай Арлянкай паявіліся нейкія ўзброеныя людзі. Набліжаюцца да места. Няўжо хочуць яго ўзарваць?! Група людзей са службы забеспячэння парадку кіруецца на ўказанае месца. Завязваецца кароткі бой. Дыверсанты лёгка не здаюцца. Яны ведаюць, што іх чакае і «дачакаліся гэтага».



*Ахвярныя жанчыны-медсёстры нясуць першую дапамогу параненым.*

Заняткі разгортваюцца планава. Людзі стараюцца, як могуць. У цяжкай ахоўнай вопратцы, у працівагазах. Ад поту кашулі прыклейваюцца да плячэй Жанчыны і дзяўчаты ж з медыцынска-санітарнай службы асабліва хутка спраўляюцца са сваімі заданнямі. Хваляць іх кіраўнікі заняткаў.

Удаліся гэтыя заняткі. Члены арлянскага атрада самаабароны поўнасцю даказалі, што ў выпадку нейкага сапраўднага ўзброенага канфлікту (адступаць у немаляванае!) можна разлічваць на іх дысцыпліну і ахвярнасць.

*В. Рудчык*

*Фота Э. Зіневіч*



*Санітарна-медыцынская служба гатова несці дапамогу ахвярам агрэсіі, а ў мірны час — ахвярам стыхійнага бедства. Першая злева: Мар'я Зайкоўская — шэф гэтай службы.*

# Арганізаваць адпачынак для настаўнікаў

Агульнавядома, што нялёгкай прафесіяй з'яўляецца прафесія настаўніка. І адпачынак патрэбны яму больш, чымсці іншым служачым. Не заўсёды аднак настаўнік мае адпаведнія ўмовы да адпачынку пасля працы. Дапамагае настаўнікам арганізаваць адпачынак гайнаўскі аддзел Саюза польскіх настаўнікаў (ЗНП). Аб гэтым расказаў мне тав. Сцяпан Гурскі (сакратар гайнаўскага аддзела ЗНП). У размове абмежаваліся мы да мерапрыемстваў, якія былі арганізаваныя ў апошні перыяд. Адным з напрамкаў дзейнасці гайнаўскага аддзела ЗНП з'яўляецца арганізаванне турыстычна-краязнаўчых экскурсій. Дзякуючы такім мерапрыемствам настаўнікі могуць лепш пазнаваць сваю краіну, яе прыгажосць і багацтвы. У апошні час адбылася настаўніцкая экскурсія ў Варшаву. Арганізаваў яе пры дапамозе аддзела ЗНП чарэмхаўскі цэнтр. У Варшаве настаўнікі глядзелі спектакль, сустрэліся з варшаўскімі педагогамі ў Доме настаўніка на Старым Месце і наведалі фабрыку тэлевізараў. Усе ўдзельнікі экскурсіі былі вельмі задаволеныя з паездкі.

У бягучым годзе ў пачатку чэрвеня адбудзецца фэст настаўніцкіх сем'яў. Вялікай атракцыяй фэсту будзе, між іншым, паездка так званай «цюхцяй» праз Белавежскую пушчу з Гайнаўкі ў ваколіцу Рыбакоў. Адбудзецца таксама паездка настаўнікаў у Белавежу з мэтай азнаямлення са спецыфікай працы заклада доследаў над сасунамі, а таксама з апякунчымі закладамі для няпоўналетніх — у Ганёндз і ў Беласток.

Нямала мерапрыемстваў для настаўнікаў арганізуе аддзел ЗНП у Доме настаўніка. Да такіх мерапрыемстваў належаць танцавальныя вечарыны з акрэсленай праграмай, спаборніцтвы ў брыдж і шахматы і г.д. Гайнаўскі аддзел ЗНП шмат часу прысвячае спорту. Ужо пару гадоў існуе пры аддзеле настаўніцкая спартыўная каманда па баскетболу.

Настаўнікі ўдзельнічаюць у грамадскіх чынах пры пасадцы лесу, будове дарог і пры рамонтах школ, клубаў, святліц. Сакратару гайнаўскага аддзела тав. Гурскаму запомніўся асабліва грамадскі чын пры пасадцы лесу, у якім удзельнічалі настаўнікі пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы разам з вучнямі прафесіянальнай школы. Пасаджана было тады некалькі гектараў лесу ў кляшчэлеўскай акрузе. Гэтае мерапрыемства мела ўрачысты характар. Быў супольны абед, спявалі песні, а таксама адбылася пастаноўка на лясной палянцы пад гукі гармоніка.

Я.Ц.







Штодзень сотні вучняў даязджаюць у школы розных тыпаў у Гайнаўцы. Даязджаюць яны цягнікамі, аўтобусамі, а таксама веласіпедамі і матацыкламі. У ліцэй з беларускай мовай навучання даязджае 255 асоб, гэта значыць, 85 працэнтаў агульнай лічбы вучняў. Справа даездаў моладзі з'яўляецца не малой праблемай. Дырэктар ліцэя з беларускай мовай навучання мгр Аляксандр Іванюк бачыць яе перш за ўсё як дадатковую цяжкасць у паспяховай дыдактычна-выхаваўчай працы школы. Мае яна свой адмоўны ўплыў. Школа не можа справіцца з некаторымі патрабаваннямі новай праграмы навучання. Мае яна вялікія клопаты з арганізацыяй пазалекцыйных заняткаў, напрыклад, працы ў гуртках зацікаўленняў, у гуртках любіцеляў кніжкі або ў прадметных гуртках. Бывае і так, што зусім немагчыма весці такога роду заняткі. Школе цяжка правесці ў сябе акадэмію, сход ці іншае мерапрыемства. З-за таго, што моладзь даязджае, не могуць весці шырэйшай дзейнасці маладзёжныя арганізацыі. Цяжка ім праводзіць статутовыя сходы ці выконваць прынятыя абавязацельствы і грамадскія чыны. А, як агульна вядома, праца школы складаецца перш за ўсё з працы саміх вучняў. Не паглыбляючыся ў рэфлексію, варта аднак прызадумацца, колькі каштоўнага часу трацяць школьнікі, хаця б для прыкладу з беларускага ліцэя. Калі прымем, што кожны вучань траціць на даезд у школу і дахаты паўтары гадзіны, дык у цэлай масе школы трацяць яны каля 400 гадзін на працягу аднаго толькі дня. Але страчаны час на праезд — гэта яшчэ не ўвесь страчаны час. Вучні мусяць дастасавацца да раскладаў ад'ездаў аўтобусаў і цягнікоў. І зноў атрымаюцца змарнаваныя гадзіны. А калі дадамо, што і аўтобусы, і цягнікі нярэдка спазняюцца, лік змарнаваных хвілін і гадзін узрасце. Варта прыгадаць факты і адносна таго, у колькі гадзін вымушаны ўставаць вучні, каб паспець на поезд ці аўтобус. Аказваецца, што некаторыя ўстаюць у 5, а найпазней у 6 гадзін раніцы. Няма тады часу на тое, каб паўтарыць той ці іншы ўрок перад пачаткам школьных заняткаў. Але аб гэтым няхай выскажуцца самі вучні з класа III б.

Лена Шугала з вёскі Чыжы: — Я даязджаю ў школу аўтобусам. Разам са мною даязджае яшчэ каля 20 вучняў. Наш аўтобус ад'язджае ў 7 гадзін 15 хвілін раніцы. Найгорш бывае зімою. Тады аўтобус не даязджае да Чыжоў з-за гурбаў снегу і або затрымліваецца на бельскай шашы ў Збучы, або зусім не прыязджае. У такім выпадку вымушаны мы бегчы на чыгуначны паўстанак да Старога Беразова, які знаходзіцца ад Чыжоў у адлегласці 5—6 кіламетраў, а часу застаецца вельмі мала.

Раман Каліноўскі з асады Нараўка: — Кожную раніцу даязджае з Нараўкі ў Гайнаўку (17 кіламетраў) 20 вучняў. У апошні час наш аўтобус не прыязджае з-за кепскай дарогі. Ходзім мы 4 кіламетры на чыгуначную станцыю і да таго вымушаны плаціць за кожны праезд.

Наогул кандуктары і шафёры аўтобусаў адносяцца да нас, вучняў, ветліва, але бывае і так, што не хочуць забраць нас. Я аднойчы спазніўся на свой аўтобус, які ад'язджае ў $15^{20}$, і вымушаны быў ехаць наступным, але апошні ў нашым напрамку аўтобус не забраў мяне. Кандуктар вылаяў мяне і не дазволіў ехаць.

Янка Кердэлевіч з вёскі Чаромха: — Я даязджаю цягніком. Да станцыі маю 3 кіламетры, а цягніком еду яшчэ 30 кіламетраў. Хаця ад'язджаю з Чаромхі ў 6 гадзін 37 мінут, то аднак часта спазняюся на ўрокі. Іншая справа — гэта справа выдзеленых вагонаў для школьнай моладзі. На жаль, гэтага ніхто дагэтуль не пільнуе. Займаем тады месцы ў купэ дзе папала і з курцамі, і з тымі, што іграюць у карты, і з тымі, што некультурна вядуць сябе ў вагоне і г.д. Крыўдна нам, што маючы трохі часу, не можам яго выкарыстаць на паўтарэнне ўрокаў. Даязджае нас 30 вучняў і мы самі занялі б вагон. Я з'яўляюся членам ЗМВ, але на сходы рэдка застаюся. Маю цягнік у $15^{06}$, дык і так часамі звальняюся з восьмага ўрока. Гэтак сама робяць і іншыя вучні з Чаромхі. Каб быў інтэрнат, я ахвотна жыў бы ў інтэрнаце, але школа наша не мае інтэрната.

Дырэкцыя ліцэя робіць усё, што можа, каб дапамагчы даязджаючым вучням. Абмяркоўвае з уладамі ПКП і ПКС расклады паяздоў і аўтобусаў. У сябе ў школьным будынку адводзіць даязджаючай моладзі вольную залу, дзе можна зрабіць урокі пасля класных заняткаў, арганізавана харчаванне ў школе і г.д. Але гэта яшчэ далёка не ўсё, каб рэкампенсаваць адмоўныя з'явы, вынікаючыя з-за даездаў моладзі на школьныя заняткі. — Наш вучань, — гаворыць дырэктар ліцэя, — мала звязаны са школай. Не ўсе вучні з-за даездаў належна карыстаюцца школьнай бібліятэкай ці чытальняй, перш за ўсё яны чытаюць розныя кніжкі з грамадскіх бібліятэк або бібліятэчных пунктаў, дзе не заўсёды могуць знайсці патрэбную кніжку. Школа не можа ўздзейнічаць на тых вучняў у гуртках зацікаўленняў і г.д. Школа наша ставіць сур'ёзныя патрабаванні перад ліцэістамі. Маюць яны многа працы і навукі, а мала вольнага часу для сябе. Вучні, якія вымушаны даязджаць, больш стомленыя і, можна сцвердзіць, маюць горшыя вынікі ў навуцы. Крыўдна ім.

*Янка Цялушэцкі*

Да ведама гаспадароў

# Новыя пастановы ўрада

Нядаўна Савет Міністраў прыняў пастанову, якая датычыць спрашчэння кантрактацыі збожжа. Паводле гэтай пастановы, гаспадары, якія падпішуць кантрактацыйныя ўмовы на пастаўку збожжа са збораў у 1972 годзе, будуць карыстацца аднялітай 40-працэнтнай зніжкай пры куплі мінеральных угнаенняў.

Забеспячэнне з кормам будзе звязана з кантрактацыяй свіна- і жывёлагадоўлі. У сувязі з гэтым не прадбачваецца ў будучыні спалучэння продажу корму з пастаўкамі збожжа ў рамках кантрактацыі.

Пачынаючы ад 1972 года прэміі, якія прыслугоўваюць з прычыны кантрактацыі збожжа, будуць выплачвацца грашыма. Гаспадарам, кантрактуючым збожжа, будзе прыслугоўваць 50-злотавая прэмія за кожныя 100 кг збожжа, прададзенага звыш кантрактацыйнай умовы, але ў выпадку, калі гаспадар закантрактуе збожжа на плошчы не меншай, чым 20 прац. ворнай зямлі. Гэтыя прэміі будуць выплачвацца замест датыхчасовай сістэмы прэмій, якая заключалася на адлічванні гэтай сумы ад падатку. (ак)

## Кансультацыя юрыста

Пытанне: Якую адказнасць мае той, хто абавязаўся прадаць нейкую рэч, узяў задатак, але абавязацельства не выканаў?

Адказ: Гэта залежыць перш за ўсё ад формы, у якой выражана абавязацельства. Найчасцей яно выражаецца ў форме ўмовы між тым, хто абавязваецца прадаць, і тым, які купляе. Гэткая ўмова праўная, калі пададзены ў ёй тэрмін, у якім умова мае быць заключана. Без гэткага тэрміну абавязацельства да заключэння ўмовы не з'яўляецца праўным. У гэткім выпадку той, хто атрымаў задатак, абавязаны яго звярнуць.

Калі гэткае абавязацельства праўнае, то той, хто купляе, можа або патрабаваць направы шкоды, якая ўзнікла ў выніку адмовы заключэння ўмовы — а асабліва можа патрабаваць звароту падвойнага задатку, альбо можа патрабаваць праз суд абавязацельства заключэння ўмовы. У гэткім выпадку рашэнне суда раўназначна заключэнню ўмовы.

Аднак пры абавязацельстве продажу нерухомай маёмасці патрабаванне праз суд заключэння ўмовы магчыма толькі тады, калі абавязацельства продажу выражана ў форме натарыяльнай.

Дамагацца направы шкоды, як і абавязацельства праз суд да заключэння ўмовы можна толькі на працягу аднаго года ад тэрміну, да якога ўмова мела быць заключана.



 

Пачатак на стар. 1




Прапанова стварэння такога цэнтра звязана з запатрабаваннем на кваліфікаваныя кадры для школ, культурных устаноў, адміністрацыі і гаспадаркі ваяводства.

На базісе цяперашняга філіялу Варшаўскага універсітэта павінна ў перспектыве вырасці ў нас вышэйшая навучальная ўстанова з 6 аддзеламі:

матэматычна-прыродазнаўчы;
гуманістычны;
педагагічны;
культурна-асветны;
праўна-адміністрацыйны;
эканамічны.

Тры першыя аддзяленні выпускалі б настаўнікаў матэматыкі, фізікі, хіміі, біялогіі, практычна-тэхнічных заняткаў, польскай мовы, рускай мовы з беларускай, гісторыі, пачатковага навучання з фізкультурай ці музыкай, прадшкольнага выхавання з польскай мовай, мастацкага выхавання.

Культурна-асветнае аддзяленне дало б абсальвентаў для асветы і культуры пазашкольнай. Напрамкі тут:

вакальны;
музычны;
бібліятэкарска-светліцовы;
тэатральны;
харэаграфічны.

Два апошнія аддзяленні выпускалі б абсальвентаў для патрэб адміністрацыі і гаспадаркі. Напрамкі тут:

праўны;
адміністрацыйны;
эканомікі сельскай гаспадаркі;
эканомікі спулдзельчасці працы;
эканомікі працы і грамадскай палітыкі.

Прадбачваецца ў другім этапе ўвядзенне 2-ступеннага навучання: пасля 3-хгадовага прафесіянальнага — 2-гадовае магістэрскае.

У будучым гуманістычным беластоцкім цэнтры на 6-ці аддзяленнях будзе 5 тысяч студэнтаў стацыянарных, 3 тысячы працуючых, а таксама 800 навукова-дыдактычных працаўнікоў.

На такі цэнтр трэба 105 тысяч квадратных метраў паверхні. Трэба пабудаваць студэнцкія дамы на 3600 месц, гасцініцу для выкладчыкаў, амбулаторыі, розныя дыдактычныя будынкі і кабінеты для практычных заняткаў.

40 гектараў прызначаецца для гуманістычнага цэнтра ў Беластоку. Месца ўжо прадугледжана ў планах разбудовы горада.

Для дапаўнення вобраза развіцця будучага гуманістычнага цэнтра ў Беластоку падаем цяперашні стан ВСН у Беластоку. Разам 1069 студэнтаў, у тым ліку 291 студэнт на прафесіянальнай адміністрацыйнай студыі і 798 на трох аддзяленнях ВСН:

матэматычна-прыродазнаўчым (напрамкі матэматыка з фізікай і фізіка з хіміяй);
гуманістычным (напрамкі — польская мова з гісторыяй і руская філалогія);
педагагічным (напрамкі — пачатковае навучанне з фізічным выхаваннем і пачатковае навучанне з музычным выхаваннем).

ВЫШЭЙШАЯ ІНЖЫНЕРСКАЯ ШКОЛА — ПЛАНЫ РАЗВІЦЦЯ НА 1971—1975.

У бліжэйшых 10 год Беластоцкае ваяводства будзе патрабаваць 4 тысяч інжынераў. У беластоцкай ВСІ вучыцца цяпер 2 тысячы студэнтаў. Школа павінна выдаваць па 400 дыпломаў у год, каб заспакоіць патрэбы ваяводства. На жаль, у даны момант ВСІ можа толькі ў 50-ці працэнтах выканаць такое заданне.

Але ВСІ ў Беластоку будзе развівацца. У будучай Вышэйшай інжынерскай школе будуць наступныя аддзяленні:

наземнага будаўніцтва;
электрычнае;
механічнае;
механізацыі сельскай гаспадаркі.

У 1971/72 годзе беластоцкая ВСІ ставіць крокі ў сваёй разбудове, арганізуючы кансультацыйны пункт у Ломжы на аддзяленнях механічным і наземнага будаўніцтва.

У 1975 годзе на ўсіх аддзяленнях ВСІ будзе 2670 студэнтаў.

Месца будучага комплексу будынкаў Вышэйшай інжынерскай школы ў Беластоку знаходзіцца на вуліцы Сверковай. Прагрáма разбудовы гэтай школы прадбачвае тры этапы:

I — 1971/72
II — пасля 1975 года
III — перспектыва 10—15 год.

З вялікім размахам будзе развівацца Беласток навуковы. Радасная такая перспектыва!

*Вера Леўчук*

# ПАСЛЯ ПАДВЫЖКІ

Рэнтабельнасць — гэта адна з асноўных спраў уздыму кожнай прадукцыі. Наша прамысловасць навучылася рабіць рэнтабельныя тавары і ў гэтай галіне можна назіраць агульны прагрэс. На многа горш стаяць справы ў сельскай гаспадарцы. Тут кошт прадукцыі кілаграма мяса, збожжа ці корму часта непараўнальна большы ад зарплаты, якую атрымлівае гаспадар-вытворца. Зразумела, што гэтая з'ява часта не залежыць ад гаспадара (неўраджай, дрэнная пагода і т.д.), але ў многім яна залежыць і ад спосабу гаспадарання.

Развіццё сельскай гаспадаркі Беласточчыны залежыць ад развіцця жывёла- і свінагадоўлі, гаварыў тав. М. Ягельскі на ваяводскай канферэнцыі ПАРП. Землі тут не найлепшыя, а багатыя сенажаці могуць стаць асновай жывёлагадоўлі. Традыцыйна беластоцкія гаспадары гадуюць многа свіней, а асновай корму для іх з'яўляецца бульба.

Аднак, каб гадоўля аплачвалася, неабходна прымяняць сучасныя заатэхнічныя метады. Жывёлаводы ўжо папрывыкалі да корму, які прадукуе наша прамысловасць. Цэняць яго і ведаюць, што дае ён добрыя вынікі. У некаторых сельскагаспадарчых раёнах паўсталі т.зв. мяшальні корму, якія займаюцца прадукцыяй корму для жывёлы.

Зразумела, што на пашырэнне жывёлагадоўлі грамадны ўплыў мае адпаведная ўрадавая палітыка. Апошняе павышэнне цэн на жывую вагу выклікала шырокае зацікаўленне гаспадароў.

Добрым паказчыкам гэтага зацікаўлення з'яўляецца колькасць продажу жывёлы і свіней на пунктах скупкі. У Юхноўцу, Беластоцкага павета, на апошняй скупцы перад павышэннем цэн, скуплена 39 штук свіней і 7 штук буйнай рагатай жывёлы. На першай скупцы пасля павышэння гаспадары прадалі тут аж 84 штукі свіней і 18 штук буйнай рагатай жывёлы. Падобна выглядала справа ў Засцянках, дзе 16.III.г.г. скуплена 43 штукі свіней, а пасля павышэння 30.III. пункт скупкі прыняў 93 штукі свіней.

Павышэнне цэн на корм у мінулым годзе выклікала пэўнае зніжэнне продажу жывёлы. Некаторым гаспадарам проста не аплочвалася купляць корм і гадаваць свіней. Інакш цяпер пасля павышэння цэн на жывую вагу. Калі, напрыклад, склад корму ў Юхноўцы ў мінулым годзе ў сярэднім кожны месяц прадаваў корму на 180 тыс. зл., дык у сакавіку гэтага года прадаў на 360 тыс. зл. За ўвесь I квартал у гэтым годзе прададзена корму на 546 тыс. зл. У мясцовым ГС-е гаспадары, разлічваючыся за прададзеныя штукі, адразу выпісваюць фактуры на корм. Гавораць яны, што зараз ім аплочваецца і гадаваць і купляць корм, і што не патрабуюць яны тырчаць на базары, прадаючы мяса «рэмбанкаю».

Хочучы даць на рынак дадатковую колькасць мяса, гаспадары ГРН у Юхноўцу і Багданках задэкляравалі (толькі на сходах, дзе былі не ўсе гаспадары) павысіць гадоўлю свіней на 430 штук, а цялят на 267 штук. Зразумела, гэтыя лікі далёка няпоўныя.

Аднак ёсць пэўныя і непакоячыя з'явы. Сам факт, што гаспадары пачалі прадаваць на многа больш, — пазітыўны, але ці гэтая колькасць прададзеных штук утрымаецца на такім самым узроўні? Такое пытанне ставяць многія. З размовы з гаспадарамі некаторых вёсак вынікае, што ў першыя дні пасля павышэння цэн скупу яны папрадавалі амаль усё, што мелі, і зараз у хлявах пуста. І нават гэта не дрэнна. Але факт, што некаторыя гаспадары папрадавалі свінаматкі і зараз не маюць чаго гадаваць, справа некарысная. Здаецца, што на гэтых гаспадароў трэба звярнуць асаблівую ўвагу і дапамагчы ім набыць маладняк, а асабліва свінаматкі.

*А. Лабановіч*

# МАКАР і ЯГО СЫНЫ

Макар са сваёй жонкаю Аннай жыве ў Вярхлессі на Сакольшчыне. Хата яго выдзяляецца ў вёсцы. Ад вуліцы прыгожы ганак, а ў сярэдзіне быццам гарадская — прыгожая мэбля, на падлозе прыгожыя хаднікі, сцены выбітыя цвёрдай пільсняй і памаляваныя алейнай фарбай ва ўсіх трох пакоях, а на кухні з белых кафляў пліта з вялікай капай. У ёй не толькі добрая духоўка, але і хлебная печ, у якой змяшчаецца 6 бляхаў хлеба. У крэдансе ў строгім парадку стаяць талеркі, шклянкі, чаркі і іншая пасуда.

Свінням не вараць на пліце, а ў спецыяльным памяшканні ў свайго роду летняй кухні, якая дабудавана да хлявоў. А ў хлявах дык добрыя моцныя платы і жолабы, а на сена, трасянку ці сырадэлю паробленыя драбіністыя яслі, так што ані конь, ані карова, ані авечка не стопча нагамі корм.

З другога боку, непадалёк хлявоў знаходзіцца велізарны склеп на бульбу, а на склепе кладоўка на розныя гаспадарскія рэчы. За склепам стаіць свіронак, у якім дасканалыя засекі і поўна збожжа. Пры свіронку Ёзік Макар зрабіў сабе майстэрню. Там і піла, і пілка, і свярдзёлак, і гэбаль, і шмат сталярскіх прылад. Чалавек гэты майстэркаваты, сам можа зрабіць усё неабходнае ў гаспадарцы. Нават хамуты яго прадукцыі ніколі не абшмуляюць шыі каню. Найдалей ад хаты стаіць гумно. На абшырным таку з уезднымі і выязднымі дзвярыма стаіць сячкарня, якая працуе пры дапамозе электрычнага току. Па-суседску з ёю крайзэга, якою Макар пілуе дрэва, разрэзвае папалам дронгі на латкі, рыхтуе штахеты. У прасторных сторанах ляжыць шмат канюшыны, якую рэжа з саломаю, і гэтым корміць каня і каровы.

Ёзіку Макару ужо за 60 год, але не выглядае ён на столькі. Поўная галава валос, няма сівізны, а калі гаворыць, відаць прыгожыя белыя зубы. Жонка яго таксама чуецца добра і молада. З яе добрая гаспадыня і вялікі спецыяліст ад кулінарнай справы. Умее рабіць смачныя вясковыя каўбасы, сальцісоны, а ўжо шынку так з умерам пасоліць і павэндзіць, што смаката яе значна перавышае купленую.

У Макароў ёсць два сыны Уладак і Ваня. Сыны параслі і выехалі з вёскі. Уладак аж у Катавіцах жыве і працуе машыністам паравоза, а Ваня — шафёр, ездзіць легкавой машынай і працуе ў Беластоку. Іван часта наведвае бацькоў, часам дапаможа некалькі дзён пры рассяванні мінеральных угнаенняў, пры жнівах і пры малацьбе.

Калі ў вёсцы пакажацца таксоўка, Ёзіку Макару здаецца, што гэта сын яго прыехаў. Бо калі па дарозе, дык Ваня заязджае ў родную хату нават з працаўнікамі сваёй установы. Тады ўжо маці, нічога нікому не кажучы, смажыць скваркі, убівае ў іх яйкі, налівае ў шклянкі смятаны і частуе прыехаўшых. У такой абстаноўцы і паўлітра паявіцца на стале і гаворка пойдзе аб жыцці-быцці. Перахіліўшы некалькі чарак, Ёзік дамагаецца ад сваёй жонкі, каб прынесла хаця некалькі лісткоў квашанай капусты. Ёзік пасля гарэлкі любіць кіслую капусту. Добра выпіўшы і закусіўшы, пачынае ён расказваць пра Уладка, што ў Катавіцах, пра свае там пабыўкі і розныя здарэнні.

— Наш Уладак нарадзіўся 1-га сакавіка і сын яго Славак нарадзіўся ў гэты ж самы дзень, — уключылася ў размову Макарыха. Я ездзіла на хрысціны, а ён, паказвае на мужа, на дзень нараджэння сына і ўнука. Сына была трыццатая гадавіна, а Слаўка першая.

Ёзік Макар, зацягнуўшыся «Гевонтам», з задавальненнем тады гаворыць:

— Я ў Уладка быў разам са сваім сватам (бацькам жонкі сына). Ён з Ляўкова, што на Гайнаўшчыне, Семяковіч. Талковы з яго мужык. Была поўная хата гасцей, але мне ўсё ж такі найпрыемней гутарылася са сватам. Папілі мы па-гаспадарску, нагаварыліся колькі ўлезла. Чатыры дні там піравалі.

Потым Макар прыцішыў голас так, як гэта робіць, калі гаворыць аб надзвычай важнай справе:

— Знаеце, наша нявестка Лілька такая добрая, такая ветлівая, што калі ў іх бываеш, здаецца што дачка родная.

Макар і яго жонка задаволены са сваіх сыноў і зусім не крыўдуюць, што яны жывуць не разам з імі на гаспадарцы. Бацькі жывуць шчасцем сваіх дзяцей, якім у гарадах паводзіцца добра. Ды бацькам у Вярхлессі жывецца хаця працавіта, але заможна.

*Міхась Хмялеўскі*

Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# Перыяд Вялікага княства Літоўскага

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА ЯК МОВА ЛІТАРАТУРНАЯ

Другі перыяд беларускай літаратуры звязаны з існаваннем Вялікага княства Літоўскага. Перыяд гэты прыпадае на XIV—XVII стагоддзі. Некаторыя з даследчыкаў акрэсліваюць яго залатым векам беларускай літаратуры. У адрозненні ад літаратуры Кіеўскай Русі пісанай, як мы ўжо гаварылі, на старaславянскай мове, літаратура літоўскага перыяду пісалася на беларускай мове. У гэты ж час у так званай Маскоўскай Русі стараславянская мова ў далейшым займала дамінуючую пазіцыю ў мастацкай літаратуры, не гаворачы ўжо аб літаратуры рэлігійнай. Выдатны даследчык беларускай літаратуры Яфім Карскі гэтую сітуацыю характарызуе наступным чынам: «Тогда, как в Московской Руси языком своего писания, богослужебным и вообще литературным служил церковнословянский в русской его редакции, в Западной Руси (Беларусі — А. Б.) сначала изредка, а затем всё чаще и чаще место церковнословянского языка в отмеченных областях заступает местный народный (беларускі — А. Б.) язык» (Белоруссы, т. III., ч. II, Петроград 1921, с. 4).

У гэтай жа працы Карскі займаецца карэнным для беларускай літаратуры пытаннем. Даследчык стараецца адказаць на пытанне, чаму аўтары заходніх акраін Кіеўскай Русі адмовіліся ад стараславянскай мовы і пачалі выкарыстоўваць у сваёй творчасці беларускую народную мову. З вялікага і складанага комплексу прычын Карскі прыгадвае некалькі. Варта некаторыя з гэтых прычын прадставіць нашым чытачам.

Бадай што найважнейшай прычынай быў адрыў беларускіх зямель ад усходняй і паўднёвай Русі. Такім чынам значна аслабла традыцыя, значэнне і сіла стараславянскай мовы. Тым больш, што літоўскія князі стараліся паклікаць у сан мітрапалітаў царкоўных дзеячоў мясцовага паходжання. Хацелі яны такім чынам ліквідаваць усякую залежнасць беларускіх зямель ад маскоўскай мітраполіі.

Істотным повадам аслаблення стараславянскай моўнай стыхіі быў таксама стан адукацыі мясцовага беларускага духавенства. Зразумела, што ў гэтым асяроддзі былі людзі высокаадукаваныя і дасканала ведаючыя стараславянскую мову. Людзі гэтыя найчасцей міжвольна ўводзілі ў літургію большую або меншую колькасць слоў з беларускай гутаркавай мовы.

З вышэй сказанага вынікае, што найбольш істотнай прычынай замацавання беларускай мовы ў ролі мовы літаратурнай, а таксама дзяржаўнай было далучэнне беларускіх зямель да Літвы. Беларускія княствы карысталіся шырокай аўтаноміяй у рамах літоўскай дзяржавы. Іх эканамічная, культурная і вайсковая роля ў Вялікім княстве Літоўскім была грамаднай. Беларускі этнічны элемент колькасна перавышаў элемент літоўскі. У такой сітуацыі Літвіны не былі ў стане накінуць сваю мову грамадным беларускім абшарам. Імкнучыся да ўгрунтавання адной дзяржаўнай мовы, мовы, зразумелай для грамаднай большасці жыхароў дзяржавы, літвіны прынялі мову беларускую.

Іншай прычынай замацавання беларускай мовы як мовы дзяржаўнай і літаратурнай было збліжэнне сярэдневяковай Беларусі да заходнееўрапейскіх дзяржаў і народаў. У гэты час на Захадзе распаўсюджваюцца ідэі адраджэння, хутка развіваюцца гарады, рамясло і гандаль. Разам з гэтым падае роля латыні і яе месца пачынаюць займаць нацыянальныя мовы. Дзякуючы збліжэнню Беларусі і Захаду пачынаюць у Беларусь пранікаць такія спецыфічныя формы жыцця, як магдэбургскае права, самаўправа, рэлігійныя брацтвы. Усё гэта было звязана з развіццём гарадоў і мяшчанства. Зразумела, што энергічны гарадскі элемент кіраваўся перш за ўсё практыцызмам і будучыняй, а не эмоцыямі і традыцыямі. Практычнай была тая мова, якой карысталіся шырокія масы, гэта значыць, беларуская мова. Да яе і звярнуліся гарадскія самаўправы, канторы, а нават і рэлігійныя брацтвы, якія стараліся знайсці найкарацейшы шлях да душы чалавека. Хто

10 ГОД ВЫСАКАРОДНАЙ ГРАМАДСКАЙ ПРАЦЫ

# ПОМНІКІ БАРАЦЬБЫ І ПАКУТ

Мінула ўжо 26 год ад заканчэння лютай вайны, якую накінула свету гітлераўская Германія. На развалінах гарадоў выраслі новыя, яшчэ прыгажэйшыя жыллёвыя і завадскія пасёлкі, на месцах баёў шуміць лес і калышацца збожжа, зямлянкі і акопы пакрыліся мохам. У мірны час вырасла новае пакаленне будаўнікоў сацыялістычнай айчыны.

Толькі цешыцца нам гэтым.

Аднак трэба ведаць, што шчасце і радасць нашых спакойных дзён каштавала вельмі дорага. Яна заснавана на барацьбе і пакутах. Паводле няпоўных падлікаў, праз карныя лагеры, якія гітлераўцы абсталявалі на Беласточчыне, прайшло ў 1939—1945 гадах 387 тысяч палонных розных краін — найбольш было савецкіх ваеннапалонных. Сярод іх 138 тысяч загінула пакутніцкай, найчасцей галоднай смерцю. Іх косці прыгарнула наша зямля, як добрая маці.

Гінула і мірнае насельніцтва. Ад здзекаў і катаванняў, ад масавых расстрэлаў. 110 вёсак Беласточчыны гітлераўцы пусцілі з дымам. 300 тысяч чалавек сярод цывільнага насельніцтва не дачакалася ў нас вызвалення. Палі ад жандармскай кулі і гестапаўскага бізуна.

А пасля, у першыя гады цяжка адваяванай свабоды, гэтую жудасную і трагічную статыстыку павялічылі яшчэ лясныя банды. Ад іх рук загінула ў Беластоцкім ваяводстве 2782 чалавекі.



*Вёска Паўлы у Бельскім павеце. Тут у чэрвені 1943 года атрад АК правёў няроўны бой з гітлераўскімі захопнікамі.*

Вось якую цану заплаціла грамадства Беласточчыны за працавітае і спакойнае сёння.

Прыпамінаем гэта, бо нельга нам гэтага забыць. І мы не забываем. Сабе і свету прыпамінаем, якім каштоўным скарбам з'яўляецца мірнае жыццё, якім небяспечным з'яўляецца балансаванне на грані вайны.

Ды не толькі гэта маем мы на ўвазе. Мы абавязаны захаваць у памяці пакаленняў імёны герояў і месцы пакут барацьбітоў.

Усімі мерапрыемствамі ў гэтай галіне кіруюць камітэты аховы помнікаў барацьбы і пакут. Існуюць яны ва ўсіх ваяводствах і паветах. Дзейнічаюць ужо 10 год, дзейнічаюць планава і грамадскім чынам.

Ваяводскі грамадскі камітэт аховы помнікаў барацьбы і пакут у Беластоку ўзначальвае намеснік старшыні Прэзідыума ВРН тав. Рамуальд Лазаровіч. Дык да яго звярнуліся мы, каб коратка расказаў пра дасягненні гэтай высакароднай грамадскай працы.

— У Беластоцкім ваяводстве, — гаворыць старшыня Р. Лазаровіч, — дзейнічае 19 павятовых і адзін гарадскі (у Беластоку) грамадскія камітэты аховы помнікаў барацьбы і пакут. Пры іх дапамозе мы ўвекавечылі ўжо 318 месц барацьбы і пакут на тэрыторыі Беласточчыны. Устанавілі помнікі і памятныя таблліцы, многія школы і вуліцы атрымалі імёны герояў, наладзілі залы і куткі народнай памяці. Цяпер у ваяводстве ёсць 33 такія залы і 100 куткоў, дзе ўвекавечаны імёны і здарэнні, якія непасрэдна адносяцца да данай мясцовасці. У гэтым дапамагаюць нам прадпрыемствы і школы. Вялікае ім дзякуй. Вось у Бельску, у падвалах будынка тэхнікума сельскагаспадарчага рахункаводства, дзе ў час акупацыі памяшчалася гестапаўская турма, сёння знаходзіцца Музей мартыралогіі. Ён у скромных маштабах адлюстроўвае жудасную карціну тых дзён. Падобны музей неўзабаве адкрыюць у Беластоку, таксама ў будынку, у якім фашысты здзекаваліся над нашымі патрыётамі. У Райску маем намер наладзіць у мясцовай школе пастаянную выстаўку, якая адлюстроўвала б трагічную гісторыю і барацьбу гэтай вёскі, вёскі, адроджанай з папялішчаў — наперакор гітлераўскаму прыгавору. Плануем і праводзім шмат іншых мерапрыемстваў. Пра ўсё не змагу расказаць. Аднак хачу ўспомніць, што супольна з установамі і грамадскімі арганізацыямі, якія займаюцца турыстыкай, апрацавалі мы шляхі турыстычных вандровак па месцах партызанскай барацьбы і па месцах, праслаўленых баямі польскіх салдат. Адзін з такіх шляхоў вядзе з Аўгустоўскіх лясоў аж да Белавежскай пушчы. Гэтыя шляхі будуць адпаведна загаспадараны, каб маладыя турысты маглі прынамсі прыблізна ўявіць сабе, у якіх умовах жылі і ваявалі партызаны і салдаты. Па ініцыятыве нашага камітэта вядзецца апрацоўка і публікацыя многіх манаграфічных брашур і кніжак. Ян Анацік апрацаваў «Даведнік месц барацьбы і пакут у Беластоцкім ваяводстве». Аўтарскі калектыў пад кіраўніцтвам З. Каштылы складае абшырны «Ваяводскі каталог асоб і месц барацьбы і пакут». Гэты ж аўтар працуе над кніжкай аб пацыфікацыі вёсак, а на 10-цігоддзе дзейнасці нашага камітэта падрыхтавалі мы брашуру, якая адлюстроўвае яго дасягненні.

Застаецца нам пажадаць ваяводскаму і ўсім іншым грамадзянскім камітэтам аховы помнікаў барацьбы і пакут далейшых поспехаў у іх высакароднай дзейнасці. Яны працуюць грамадска. Дык разлічваюць на нашу дапамогу. Нельга нам адмовіцца ад яе.

*В. Рудчык*

ж у такой сітуацыі мог карыстацца стараславянскай мовай, якая не аб'ядноўвала, але аддзяляла?

Вынікам сувязей з Заходняй Еўропай было пранікненне ў Беларусь ідэй адраджэння, гуманізму і рацыяналізму. Зварот да чалавека азначаў зварот да яго натуральнага асяроддзя, у тым ліку таксама да яго роднай мовы.

Значную ролю ў працэсе пашырэння беларускай мовы адыгралі розныя рэфарматарскія рэлігійныя напрамкі. Рэфармацыя, адкідаючы старыя рэлігійныя каноны і адзінаўладдзе рымскага папы, спрыяла заснаванню царквы, звязанай з нацыянальнымі інтарэсамі паасобных народаў. Рэфарматарскія напрамкі адклікаліся да той мовы, якой карысталіся народныя масы. Зразумела, што гэта ўзмацняла ролю беларускай мовы. Асабліва карысны быў у Беларусі ўплыў чэшскіх гусітаў, якія прапагандавалі патрыятызм і культ усяго, што звязана з сваёй краінай, культурай і мовай. Станоўчую ролю адыграў у Беларусі кальвінізм, які таксама, як гусізм, пашыраў ідэі гуманізму.

Нават езуіты — ворагі ўсяю прагрэсіўнага і беларускага, стараючыся нанесці рашучыя ўдары па праваслаўю і пратэстантах, не раз карысталіся беларускай мовай, бо ведалі, што чалавека можна пераканаць толькі на той мове, якую ён разумее.

Усе прадстаўленыя вышэй прычыны спрыялі распаўсюджанню беларускай мовы як мовы дзяржаўнай, мовы канцылярый і суда, мовы княжаскага двара, мовы вяльмож і мовы літаратуры.



*Гэты камень — сімвалічны помнік супольнай барацьбы савецкага і польскага народаў. Ён увекавечвае месца (Лясны Куток у Барэцкай пушчы), дзе восенню 1944 года геройскі загінула група савецкіх разведчыкаў, якая дзейнічала пад камандваннем паляка паручніка Генрыка Марэцкага.*

*Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і нанізжы старонкі на дроцік або шнурочак.*

# ТРЫБУНА чытачоў

## НЯДБАЙНАСЦЬ

Позняй восенню ў вёсцы Рэдуты (Бельскі павет) быў разабраны 50-метравы адрэзак бруку — насупраць святліцы-рамізы і крамы. Работамі кіраваў дарожны аддзел у Бельску Падляшскім і меў яшчэ да зімы ўлажыць тут другі — лепшы брук. Нейкая неразумная галава, відаць, думала што зіма і не прыдзе ў гэты куток, бо па-разумнаму нельга было так позна брацца за работу.

Ад гэтага часу насельніцтва мучыцца, бо дзе была маставая, цяпер маса балота, і тут не прайсці і не праехаць. Трактары і самаходы страгнуць, фурманкай з паклажай таксама не праехаць. Нават аднойчы самаход з кіраўніком дарожнага аддзела ў Бельску застраг. Але народ тут добры, памог, і выцягнулі аўтамабіль з кіраўніком з балота. А не трэба было гэтага рабіць, няхай бы сам кіраўнік запрагаўся і выцягаў машыну. Тады можа падумаў бы аб рамонце і зразумеў бы жаль жыхароў вёскі. Але чужая бяда не бяда. Кіраўнік паехаў і забыўся аб рамонце. А тут пакуль што ніхто не думае ўлажыць маставую і надалей усе топяцца ў балоце.

*М. Дубовіч, Гайнаўскі павет*

## ЯНКА ШЫМАНЮК

Гэты прыстойны, прыгожы хлапец, хаця яшчэ малады, заслужыў на пашану, не толькі сярод семяноўскай моладзі, але таксама і сярод людзей старэйшага пакалення.

Янка Шыманюк ужо даволі доўга працуе на суседняй тут чыгунцы, і хаця яго работа цяжкая, аднак добра ўмее ён планаваць свой час, што дазваляе яму працаваць яшчэ ў эстрадным гуртку, які арганізаваўся толькі дзякуючы яго намаганням. Амаль кожны вечар прыходзіць ён на рэпетыцыю. Янка стараецца павышаць узровень выступленняў. На сходзе ЗМВ моладзь выбрала Янку старшынёю гуртка. Абяцаў ён сумленна выконваць даручаныя яму абавязкі. Усе мы перакананы, што Янка не падвядзе нас. Наш старшыня яшчэ вельмі любіць прыроду.

У агародчыку каля хаты садзіць многа кветак. Любіць ён доўгія шпацыры сярод шумлівых дрэў.

*Е. З., Семяноўка*

## У БУДАХ НАЙЛЕПШ

Адной з важнейшых спраў грамадскай рады нарадовай у Шымках (Беластоцкі павет) з'яўляецца тое, каб гаспадары высявалі на свае палеткі як найбольш мінеральных угнаенняў. Работнікі ГРН і перадавікі кантрактацыі намагаюцца поўнасцю выканаць план куплі ўгнаенняў. Пакуль што найбольш мінеральных угнаенняў купілі сяляне з вёскі Буды, дзе перадавіком з'яўляецца Марына Лаўрэшук. Найслабей у гэтай галіне ў вёсках Старая і Новая Луплянка. Падобна прадстаўляецца справа і з кантрактацыяй збожжа. Буды зноў на першым месцы.

*Мікалай Гогель, Беласток*

## ДЗЕЯЧ З ЛАСОСНАЙ

Аляксандру Нядзеліну з Вялікай Ласоснай ужо 75 год. Гэта вядомы чалавек у сваёй мясцовасці. Быў ён некалькі кадэнцый сакратаром партыйнай арганізацыі, намеснікам старшыні ГРН у Кузніцы і 15 год солтысам. Нейкі час узначальваў сельскагаспадарчы гурток у сваёй вёсцы. Нягледзячы на тое, што яму нямала ўжо год, ён далей з'яўляецца актыўным дзеячом, і як радны ГРН адстойвае інтарэсы сваіх аднавяскоўцаў.

Грудзі Аляксандра Нядзеліна ўпрыгожвае Сярэбраны Крыж Заслугі. (сс)

## ВРОЦЛАЎСКІЯ БЕЛАРУСЫ

У Вроцлаве і каля Вроцлава жывуць беларусы, у асноўным, выхадцы з Беласточчыны. Галоўнае праўленне Беларускага таварыства атрымала ліст ад вроцлаўскіх беларусаў, якія хацелі б пачаткова арганізаваць гуртом БГКТ, а пасля аддзел. «Ёсць больш 10-ці чалавек, якія маглі б быць добрымі дзеячамі БГКТ, — піша ў лісце Ігар Хлябіч з Вроцлава. — Просім падаць дату, калі хто мог бы прыехаць з Галоўнага праўлення, каб арганізаваць спатканне і арганізаваць БГКТ у Вроцлаве».

## ПЕРАДАВЫ ГАСПАДАР

Аляксандр Курыла з Вялікай Ласоснай на Сакольшчыне з'яўляецца перадавым гаспадаром сваёй ваколіцы. Ён закончыў засадніцую сельскагаспадарчую школу, і атрыманыя там веды дапамагаюць яму гаспадарыць. Ад яго сяляне вучацца, як дабівацца высокіх ураджаяў, як рацыянальна карміць жывёлу. (хх)

## СЯМ'Я ПАНФІЛЮКОЎ

У Івана і Марысі Панфілюкоў, якія жывуць у Рутцы, што на Гайнаўшчыне, васьмёра дзяцей — пяць сыноў і 3 дачкі. Найстарэйшы сын Грыша ўзяўся за гаспадарку і разам з бацькамі апрацоўвае зямлю. 3 дачкі выйшлі ўжо замуж у сваёй вёсцы і таксама добра жывуць. Сын Мефодзі выехаў працаваць у Глівіцы. За сабою ён цягнуў малодшых сваіх братоў. Спачатку Івана забраў у школу, а затым Федзю, які там закончыў сельскагаспадарчы тэхнікум і з'яўляецца ўжо аграномам. Яшчэ адзін брат Пётр працуе шафёрам у Нараўцы. Ён таксама ўжо жанаты. Іван пераехаў з Глівіц у Беласток, бліжэй бацькоў і працуе тут на адказнай пасадзе. У час гарачых палявых работ часам з'язджаюцца ўсе дарослыя дзеці Івана Панфілюка. Яны прыязджаюць са сваімі жонкамі і дзяцьмі. Тады поўная хата сваёй сям'і. Тады і работа спорыцца на полі. Сям'я Панфілюкоў вельмі дружная, згодная, так што прыемна ўсім у такой вялікай грамадзе. (мх)

## ГРАМАДСКІМ ЧЫНАМ!

Жыхары вёскі Спічкі (Бельскі павет), а найбольш моладзь, у мінулым годзе многа працавалі грамадска пры рамонце дарогі ў Орлі. Дарогу гэтую абсадзілі дэкаратыўнымі дрэвамі. Як мала ў якой вёсцы, падумалі тут і аб спартыўнай пляцоўцы, якую таксама зрабілі грамадскім чынам. Наступіла вясна. І зноў будзе магчымасць правесці які-небудзь грамадскі чын. (см)

## Сардэчныя ТАЙНЫ

*Дарагое Сэрцайка!*

Я і мой хлапец жывем у горадзе. Бацькі мае і Мірка жывуць на вёсцы на Беласточчыне. Мне нядаўна пайшоў 21 год. Мірку 26 год. Працуе ён на адным з прадпрыемстваў кваліфікаваным рабочым. Зарабляе някепска, толькі занюга выдае на гарэлку. Я таксама працую, маю сваю кватэру, якую мне купілі бацькі. Паўгода таму назад мяне пазнаёмілі з Міркам. Ён прыстойны, прыгожы, дык і спадабаўся мне. Мы пачалі сустракацца штораз часцей. Але нашыя сустрэчы дзіўныя. Ад другога нашага спаткання мы заўсёды сварымся, потым ізноў перапрашаем адзін другога, а праўду кажучы, вельмі часта нават б'емся. Так, Сэрцайка, б'емся. Мірэк упарты і сказаў мне, што я мушу думаць і паступаць так, як ён гэтага хоча. А я таксама маю свой «характар». Я яму сказала, што не будзе так, як ён гэтага хоча. І таму мы не раз так паспрачаемся, што аж паб'емся. Мірэк сказаў мне, што я яму вельмі падабаюся, што мяне кахае, што не любіць дзяўчат «без характару». І я прызвычаілася да Мірка, пакахала яго. Мы нават гаварылі ўжо аб жаніцьбе, але мама мая не хоча нават і слухаць. Маме Мірэк не спадабаўся ад першай сустрэчы (калі я першы раз завезла яго на вёску да бацькоў). Не ведаю, што рабіць, ці слухаць маці, ці паступіць, як гаворыць мне маё сэрца. Мне здаецца, што, калі Мірэк не здолее мяне прымусіць да сляпога яму паслушэнства, тады напэўна ўсё будзе добра. А ўсё ж я баюся прыняць рашэнне. Як ты, Сэрцайка, раіла б мне паступіць? Чакаю.

*Марыся з Б.*

*Марыся!* А што будзе, калі Мірэк застанецца такім жа ў адносінах да цябе? Праўда, пакуль яшчэ не будзе дзяцей, дык будзеце ўзаемна біцца і перапрашацца, і з гэтага повaду ніхто (апрача суседзяў, якім надакучаць вашыя крыкі) не будзе цярпець. Але што будзе, калі народзіцца дзіцё, якія ж тады дасце яму ўмовы выхавання? Вось над гэтым ты, Марыся, павінна падумаць. Як цяжка паверыць, што перастане біцца, калі ўжо станеш, як кажуць часта мужчыны, яго «уласнасцю». Вось мая парада: пакінь Мірка, бо прыгажосць і прыстойнасць — гэта яшчэ не ўсё ў жыцці. Зрэшты, прыстойных і разумных хлопцаў таксама ж не шукаць са свечкай.

*Сэрцайка*

## ЧАМУ ТАК ЁСЦЬ?

Матаровыя веласіпеды, або як іх называюць, матаровары, сталі вельмі папулярныя цяпер. Дазвол язды на іх могуць атрымліваць нават дзеці, якім споўнілася 10 год. Але найбольш ездзяць маторнымі веласіпедамі «Камар» школьнікі ва ўзросце 13—17 год. Клопаты аднак маюць усе, хто купіць «Камар». Згодна з законам, трэба 2 разы праверыць у тэхнічнай абслузе самахадовай (ТОС) тэхнічную спраўнасць матаровара. І тут паяўляюцца праблемы. З Беластока ці з-пад Беластока, або з Сакольшчыны ці Дуброўшчыны на гэтую праверку трэба ехаць не ў Беласток, не, не, але ў Бельск Падляшскі да ТОС-у. У Беластоку, паводле дарожных улад, такі пункт непатрэбны. Няхай беластоцкія дзеці едуць у Бельск, няхай дзеці з Сакольшчыны мінаюць сталіцу Беласточчыны і едуць за 100 км.

А ў Бельску такое перапаўненне, што за адзін дзень не паспеюць глянуць на «Камар» і стукнуць у гарантыі пячатку.

Мой 13-гадовы сын ездзіў ужо два разы, каб атрымаць адну пячатку.

Чаму б у кожным павеце не зрабіць праверачны пункт тэхнічнай спраўнасці «матаровара»? Або прынамсі ў Беластоку?

*М. Сваяк, Беласток*

## ПАРАДЫ ДАСЛЕДЧЫКА

Гной з хлявоў пад бульбу трэба вывозіць у зімовыя месяцы і складваць у прызмы на высокасць 80 см ды добра ўтоптваць. Вясною гной трэба растрэсці і прыараць. Калі збіраемся садзіць бульбу, трэба зробленай прыладай пазначыць месцы 50 см х 50 см. Садзім бульбу нярэзаную, сярэдняй велічыні. Абсыпаем яе ў адным напрамку, а калі яна падрасце, у двух напрамках.

Бульба добра расце на прыараным лубіне і па скошанай сырадэлі. Разам з лубінам можна прыараць на 1 га 3 цэнтнеры патасовай солі, 2 цэнтнеры суперфасфату і 5 кг сергану-амону. Вясною бaрануем поле, адзначаем месцы 60 х 60 см і садзім бульбу, прыкрываючы рыдлёўкай. Два разы яе абсыпаем.

* ✻ *

Прывыклі мы сеяць лубін на глебе V і VI катэгорыі. Горкі лубін расце там добра. А ўжо лубін салодкі — кармавы не дае добрага ўраджаю. Кармавы лубін патрабуе добрага ўгнаення. Добра расце на бульбянішчах. А калі няма бульбянішча, дык трэба на 1 га зямлі высеяць 3 цэнтнеры патасовай солі і 2 цэнтнеры суперфасфату. Помніць трэба, што кармавы лубін не зносіць пустазелля.

*Нестар Перавой, Бельск Падл.*

## КУДЫ ПОЙДУЦЬ ВУЧЫЦЦА?

У Старым Корніне ў VIII класе 13 вучняў. 11 з іх ідзе вучыцца ў сярэднія школы. І так: у тэхнікуме драўніннай прамысловасці будуць вучыцца 2 асобы, у ліцэі медсясцёр — таксама 2 асобы, у агульнаадукацыйным ліцэі — адна асоба. Астатнія 6 вучняў будуць вучыцца ў розных тыпах прафесіянальных школ. Двое нашых выпускнікоў, якія застаюцца на гаспадарках бацькоў, будуць пашыраць свае сельскагаспадарчыя веды ў гуртках сельскагаспадарчай падрыхтоўкі.

*Васіль Сегень, Стары Корнін*

## ЗАБЛУДАЎСКАЯ ДАРОГА

На дарозе з Давідавіч да Заблудова знаходзіцца вялікае «балотнае пекла». Калі толькі ідзе дождж, дык гліна там раскісае і тады ні прайсці, ні праехаць. Вясной гэтая дарога зусім непраезная, а летам глыбокія каляіны не дазваляюць праехаць не толькі веласіпедам, але і возам. Восенню мінулага года гэтае «баёра» пачалі мінаць праз лугі. Гаспадары пратэставалі, што ўсе ездзяць па іх полі і марнуюць пасевы. Гэты стометровы адрэзак дарогі неабходна наладзіць, неабходна прыступіць да грамадскага чыну.

*Коля Міхалюк, Давідавічы*

*На кані.* *Фота: Я. Цялушэцкі*

## КАМІНАРЫ

Кожны месяц ходзяць камінары і бяруць ад сялян па 7 злотых за чышчэнне комінаў, у якія зусім не заглядаюць. Нядаўна спаткаў я камінара ў Плёсках, які не насіў нават прыладаў, патрэбных да чышчэння коміна.

— Дзе вашае памяло? — запытаў я. — Пакінуў на пачатку вёскі. Не варта нават насіць, бо грошы і так кожны плаціць, — адказаў камінар, усміхаючыся.

Ходзіць камінар, як які-небудзь секвестратар, і выпісвае квіты. Коміна не чысціць, а грошы збірае. І гэтак прыходзяць яны штомесяц і няма на іх аніякай рады.

*Лёня Леанюк, Плёскі*

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**

„Życie raz jeszcze" (polski), 11—12. „Dr Fabrizius działa" (NRD), 13—14. „Prom" (polski), 15—16.

**НАРАЎКА**

„Arcylokaj" (franc.), „Historia jednego myśliwca" (polski), 12—16.

**НАРВА**

„Lecą żurawie" (radz.), „Pokój przychodzącemu na świat" (radz.), 12—16.

**ЧЫЖЫ**

„Banda Asa Kier" (radz.), „Mąż swojej żony" (polski), 12—16.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**

„Dwaj panowie bez parasola" (rumuński), „Rozbójnicy sycylijscy" (włoski), 12—16.

**АРЭШКАВА**

„Doczekać zmroku" (USA), „Wkrótce nadejdzie wiosna" (radziecki), 15—16.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**

„Nikt nie rodzi się żołnierzem" (radz.), „Siódmy rok miłości" (NRD), 12—16.

**ОРЛЯ**

„Siedemnasty równoleżnik" (franc.), „Uzurpatorzy" (węgierski), 12—16.

**РАЙСК**

„Trzy godziny miłości" (jugosłowiański), „Lenin — karty życiorysu" (radz.), 12—16.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**

„Odraza" (węgierski), „Samotna" (radz.), 12—16.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**

„Ściana czarownic" (polski), 11—12. „Pippi" (szwedzki), 13—14. „Lucia" (kubański), 15—16.

**ЯНАЎ**

„Abel twój brat" (polski), 12—16.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**

„Samolot odlatuje o 9-tej" (radz.), 11—12. „Mój pies Wulkan" (radz.), 13—14. „100 karabinów" (USA), 15—16.

**МЕЛЬНІК**

„Zabawy w muzeum" (węgierski), 11—12. „Po wielkiej burzy" (szwedzki), 13—14. „Ucieczka w kajdanach" (USA), 15—16.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**

„Lenin, fakty i wspomnienia" (radz.), 11—12. „Panowie z kompleksami" (włoski), 13—14. „Hrabina Cosel" (polski), 15—16.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**

„Nieśmiertelni Flip i Flap" (USA), 11—12. „Jeśli dziś wtorek to jesteśmy w Belgii" (angl.), 13—14.

**НОВЫ ДВОР**

„Ostatni termin" (USA), „Szósty lipca" (radz.), 12—16.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-33-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7254 E-3

*З чэшскага*

# КРЫЎДЫ

Скажу шчыра: я, Пэпік Каголь, натура не вытанчаная. Ніколі мяне не цікавілі лірычныя вершы, а кумірамі маімі былі чэмпіёны па хакею. Таму я і сам стаў гуляць у хакей.

Мой прыяцель Габлоўн таксама стаў хакеістам, толькі гуляў ён у іншай дружыне, так што мы часта сустракаліся на хакейным полі як супернікі.

На хакей у нас аднолькавыя погляды: каму хочацца спорту без гузаў і шрамаў, хай гуляе ў пінг-понг, прэферанс ці кеглі. А для хакея патрэбны моцныя хлопцы, не з баязлівага дзесятка.

У спаборніцтве нашых дружын перада мною і Габлоўнам адкрылася дасканалая магчымасць паказаць, што мы моцная парода, не якія-небудзь размазні і пястуны. Спачатку я пхнуў Габлоўна так, што ён пераляцеў цераз бар'ер і збіў з ног аднаго з гледачоў. За гэта я быў выдалены з поля на дзве мінуты. Калі я вярнуўся ў гульню, удар клюшкай, які нанёс мне Габлоўн, каштаваў мне бровы і двух зубоў. Суддзя выдаліў яго на дзве мінуты.

Неўзабаве мы паламалі адзін на другім свае клюшкі, за што нас аштрафавалі на пяць мінут.

Вярнуўшыся на поле, мы зноў накіраваліся адзін на другога: я раскрываваў Габлоўну падбародак, а ён выпрабаваў локцем моц майго насавога храстка. Суддзя канстатаваў узаемнае нападзенне і зноў выдаліў нас на пяць мінут.

Так праходзілі нашы спаборніцтвы. Доктару Бухце бывала з намі нямала клопатаў і амаль кожны раз даводзілася выдаваць нам бюлетэнь на некалькі дзён. Мы з Габлоўнам горда хадзілі па мястэчку, выстаўляючы напаказ свае ганаровыя шрамы. Малышы глядзелі на нас з зайздрасцю і марылі аб тым часе, калі вырастуць і таксама стануць спартсменамі. А мы цешыліся, што моладзь бачыць у нас прыклад спартыўнага духа, і, выходзіць, можна не непакоіцца за будучыню нашага хакея: наша змена не будзе хлюпікамі і недаткамі, гэта будуць новыя Габлоўны і Каголы, якія не лічацца з якімісь там сінякамі, кровападцёкамі і пераломамі.

Аднойчы мы з Габлоўнам сустрэліся на танцах і трохі не паладзілі. Не тое, каб мы так ужо адразу ўзненавідзелі адзін другога, божа ўпасі? Проста справа прывычкі, мы ж моцныя хлопцы, не якія-небудзь крохкія статуэткі, так што самі не прыкмецілі, як шчапіліся па ўсёй форме. Словам, грубая «гульня корпусам».

За грубую «гульню корпусам» у хакеі, гэта ведае кожнае дзіцё, належыць найбольш па пяць мінут, ні секунды больш. Мы з Габлоўнам, як сапраўдныя спартсмены, гатовы былі прыняць такое пакаранне. Але высветлілася, што ў павятовым судзе і панящця не маюць аб хакеі: замест пяці мінут суд уляпіў нам па пяць тыдняў за хуліганства...

*Міраслаў Шванрдлік*




# НІЎКА



*Здаюся.*

## Галаваломка



Гэту фігуру раздзяліце на дзве абсалютна роўныя часткі.

* * *

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара: 14.*

### ЗАХВАРЭЎ

— Чаго ты кульгаеш, Сымонка, ці можа захварэў?

— Але, штосьці зубы баляць.

### ДЗЕ ЎЗЯЦЬ

— Татка, зрабі мне скрыпку.

— Добра, але дзе ўзяць струны?

— Дастаць іх з піяніна.

### НА ЛЕКЦЫІ

Рэнтген не быў вялікім майстрам чытаць лекцыі. Аднойчы, калі ў аўдыторыі вельмі зашумелі, ён звярнуўся да студэнтаў:

— Калі паны, якія гавораць між сабою, будуць рабіць гэта так ціха, як тыя паны, што спяць, дык гэта будзе самае прыемнае для тых паноў, што слухаюць.

# КАЛІ ФРОНТ СМЯЯЎСЯ

(СА СТАРОНАК ЧАСОПІСА «РАЗДАВІМ ФАШЫСЦКУЮ ГАДЗІНУ»)



*Доктар.* Як вы сябе адчуваеце, гер фюрэр?

*Гітлер.* Дрэнна.

*Доктар.* Што, коле?

*Гітлер.* Страшэнна коле.

*Доктар.* А не рэжа?

*Гітлер.* І рэжа таксама.

*Доктар.* А што больш — рэжа ці коле?

*Гітлер.* Больш за ўсё страляе.

*Доктар.* Вось як! А ў якім месцы, дазвольце запытаць?

*Гітлер.* Галоўным чынам пад Мінскам.

*Доктар.* Гм... Тут я вам нічым дапамагчы не магу.

### СУР'ЁЗНАЕ РАЗЫХОДЖАННЕ

Беларускі партызан:

— У мяне з немцамі сур'ёзнае разыходжанне па зямельнаму пытанню.

— Якое ж?

— Яны хочуць быць на нашай зямлі, а я хачу, каб яны былі ў зямлі.

### КАЛІ І НЕ СНІЦЦА

*Фрыц.* Каб не было сёння якой бяды. Мне снілася, што нас акружаюць партызаны.

*Ганс.* Дзівак! Партызаны акружаюць нас нават тады, калі гэта нікому не сніцца.

### РАЗМОВА НАЧЫСТАТУ

*Фрыц.* Руская кажуць, што будзе на іх вуліцы свята. Праўда гэта ці не?

— Я другога баюся — яны могуць наладзіць сваё свята і на нашай вуліцы.

### АДЗІН НАПРАМАК

— Скажы, Ганс, які ўчастак фронту рускія называюць магілёўскім напрамкам?

— Для нас цяпер усюды магілёўскі напрамак, — рускія ўсюды гоняць нас у магілу.

### ШЧЫРА

— Скажы шчыра, ці выглядаю я на сорак гадоў?

— Не ведаю, дарагая, разбіраюся я ў гэтым ці не, але дзесяць гадоў таму назад, па-мойму, выглядала.

### ДОБРА

— Ці добра на мне сядзіць гэтая шапка?

— Ага — закрывае ўвесь твар.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Марысі і Веры Манцюк і Надзі Нікалаюк з вёскі Мікулічы, Смяціцкага павета, змяшчаем песню:

## Толькі з табою

Толькі з табою мне хочацца быць,
Толькі з табою.
Радасць, і гора, і шчасце дзяліць
Толькі з табою.

Ранняй часінай к табе я лячу,
Познай парою,
Толькі к табе прыхіліцца хачу
Сэрцам, душою.

Выйсці у поле, дзе нівы шумяць
Там над ракою.
Першую зорку на небе спаткаць
Толькі з табою.

Гэтак не страшны цяжкія пуці
Будуць з табою,
Гэтак ісці неразлучна ў жыцці
Толькі з табою.




— *Цікава, як жа яе будуць зваць?...*

### НЕ ВІНАВАТЫ

Настаўнік пытае ў вучня:

— Чаму ты, Сцёпа, хатняга задання не зрабіў?

— Ды я зрабіў бы, але маці падвяла — захварэла.

### ШТО ЗГУБІЎ

Малады муж купіў звычайную мятлу. Жонка доўга яе разглядала, як нешта вельмі дзіўнае, а потым сказала:

— Добра, але дзе ты згубіў інструкцыю карыстання гэтай машынай?

### НАРОДЖАНЫ ЛЁТАЦЬ

Хоць ведае мала і вопыту
з локаць,
Усюды крычыць:
«Я народжаны лётаць!»
Калі паглядзець,
дык і рацыю мае:
З работы адной
на другую лятае.

*Г. Зотаў*

### З ЛІТОЎСКАГА

— Ваш дырэктар, відаць, добры кіраўнік?

— Пакуль што не скардзімся... Тут падышоў Кіндзюліс і сказаў:

— А паскардзіцеся — здыме з работы.




### СУТЫКНЕННЕ З ЖУКАМІ

Савецкі танкер «Браціслава» ішоў па Атлантыцы, калі на экране радара з'явіўся адбітак незразумелай перашкоды, а вахценныя паведамілі аб набліжэнні нейкага цёмнага шара. На судне аб'явілі трывогу, збавілі ход і задраілі ілюмінатары. Праз некалькі мінут адбылося сутыкненне з вялізнай хмарай чорных жукоў. Яны засыпалі палубу і надбудовы, пакрыўшы іх тоўстым слоем, які варушыўся. Цэлы дзень спатрэбіўся экіпажу, каб пазбавіцца ад непрыемных гасцей.

### СМЕТНІК У ГІСТОРЫІ

Арыгінальны медаль будзе выпушчан у горадзе Канебанкпорт (штат Мэн, ЗША). Гэтым бронзавым медалем адзначаецца 300-годдзе... сметніку ў горадзе. У мясцовай кампаніі па ўборцы смецця ёсць доказ таго, што сметнік у вёсцы, якая паклала пачатак гораду, з'явіўся ў 1670 годзе. На медалі будзе кветка, што расце з паваленай скрыні для смецця. Кажуць, што яна павінна сімвалізаваць працвітанне горада.

### ПРЫГОДНЫ... ЗА КРАТЫ

У Аўстрыі іншаземных рабочых ласкава называюць «гасцявымі». Гаспадары на дзіва ўважлівыя да гасцей. Пры паступленні на работу іх просяць прадставіць толькі адпаведны дазвол ад муніцыпалітэта. Ён выдаецца, аднак, толькі пасля прадстаўлення даведкі гарадскога аддзела аховы здароўя аб тым, што госць «не выклікае сумненняў у санітарна-паліцэйскіх адносінах» і «прыгодны для турэмнага зняволення і транспартавання». Даведкі аб тым, што яму не прапанаваны адзіночная камера і карцэр, не патрэбна.




*Чуе звон, ды не ведае, што ім хочуць заглушыць.*